Цана асобнага нумару 35 гр.

Вільня, 21 Лістапада 1931 г.

# СЛОВА ПРАЎДЫ

## АДНАДНЁЎКА

## Хочуць быць лепшымі...

Пэўная, невялічкая група віленскага грамадзянства на чале з Луцкевічам і Астроўскім папала ў вельмі прыкрае палажэньне. Займаючы полёнафільскі спадак і зьяўляючыся полёнафіламі ў поўным значэньні гэтага слова (паскольку ўсякае полёнафільства цесна зьвязана з грашовымі крыніцамі) яны за ўсялякую цану хацелі-б адхрысьціцца ад тае прыкрае для іх акалічнасьці, што ніхто іншы як яны самі зьяўляюцца запраўднымі насьледнікамі Валэйшы, Кабычкіна і іншых, агіднай памяці „дзеячоў".

Яны забываюць, што робяць тую самую працу, якую вялі і тыя, і што мэтады іх працы мала чым адрозьніваюцца ад мэтадаў іх папярэднікаў.

Вядомы „фаховы" павадыр Антоні Луцкевіч каб паказаць сваё „незалежніцкае" аблічча — друкуе ў сваім падбітым „Звоне" пісьмо, дзе аж са скуры вылазіць, даводзючы што ён ніколі ня выказваўся „на карысьць полёнафільскага кірунку." Тыя-ж весткі, якія падало тэлеграфнае агенства W.A.P.L. ён залічае да звычайнае правакацыі.

Далей гэты „ганаровы" чалавек, гаворыць, што яго „пачуцьцё нацыянальнае і асабістая годнасьць" не пазваляюць яму спаўчуваць полёнафільскаму кірунку беларускае грамадзкае думкі.

Ясна і зразумела...

І пад гэтым ясным і зразумелым пісьмом стаіць дата 23 IX 31 г.

Праходзіць пасьля гэтага нейкі месяц, выходзіць № 22 „Бел. Звону" і вось тут ведамы п. Антоні, патрыярх ад усялякага круцельства і здрады, (апынуўшыся са сваёю кумпаніяю ў прыкрым матэрыяльным палажэньні,—стараецца згладзіць тое дрэннае ўражаньне, якое было выклікана пададзеным вышэй пісьмом.

„Мы, кажа ён, зьяўляемся запраўднымі полёнафіламі, мы шукаем паразуменьня і супрацоўніцтва"...

„І калі мы, выступаючы ў абароне інтэрэсаў белар. народу—часта паддаём вострай крытыцы... — дзеяльнасьць ураду,—то робім гэта толькі дзеля карысьці Дзяржавы... Адным словам, даруйце нам, паночкі, апошнія артыкулы, за якія была сканфіскавана нашая газэта, бо ўсё гэта рабілася для вашай-жа карысьці.

Мы зьяўляемся запраўднымі полёнафіламі, але вось усякія там Валэйшы, Паўлюкевічы, Вярнікоўскія і Аляксюкі— гэта афэрысты, крымінальныя праступнікі і г. п.

У такі спосаб тлумачацца перад грамадзянствам тыя людзі якім былі зроблены ў свой час вельмі паважныя закіды, і якія з іх ня вытлумачыліся. Паказваючы пальцам на Аляксюка, Валэйшу, Кабычкіна і іншых як на афэрыстаў,—яны запамінаюць, што ня лепшымі зьяўляюцца і самі.

Варта прыпомніць толькі пра тое, што ўжо стала ведама ўсяму агулу нашага грамадзянства.

Нават невялічкая частка тых фактаў, якіх не далося Луцкевічу і К-о ўкрыць ад грамадзянства—даводзюць, што гэтыя людзі зьяўляюцца куды больш небясьпечнымі афэрыстамі, чым Валэйша і К-о, якія сядзяць цяпер у вастрозе.

**Ніхто іншы, як Луцкевіч (з ведама сваіх бліжэйшых прыяцеляў) залез з падабранымі ключамі ў пакой Акінчыца і выкраў ад яго выбарную перапіску** ў выразна цёмных мэтах, аб якіх ведама ўсяму агулу віленскага грамадзянства.

Ніхто іншы—як Луцкевіч з Астроўскім і Трэпкаю патаемна друкавалі беларускія падручнікі, якімі хацелі „збеларусізаваць" Нямеччыну праз Зюзэміля, і зрабілі прыгэтым падвойную афёру, бо „укралі аўтарскае права, друкуючы іх бяз ведама аўтараў.

Ніхто іншы, як Луцкевіч, Астроўскі, Гаўрылік і К-о развалілі Радашкаўскую і Клецкую гімназію, скамунізаваўшы вучнёўскую моладзь, а цяпер Луцкевіч з Астроўскім, схаваўшыся за плечы падстаўных балваноў, далей імкнуцца да таго, самага ў Гімназіі і Вучыцельскай Сэмінарыі ў Вільні.

Шмат чаго можна было-б прыпомніць гэтым запраўдным афэрыстам, якія ходзяць яшчэ на волі, дзякуючы нейкаму фатальнаму непаразуменьню.

Запраўднае іх мейсца там, дзе зядзіць Валэйша, а тая акалічнасьць, што яны і па сяньняшні дзень спацыруюць на волі, займаючыся і далей рознымі цёмнымі справамі—ня служыць яшчэ доказам іх лепшай якасьці ад людзей тыпу Валэйшы.

Усе яны маюць аднолькавае маральнае аблічча, толькі розьніца паміж імі палягае на ступені лоўкасьці і зваротлівасьці. Патрапілі-ж гэтыя „spryciarze" выйсьці сухімі з Грамадаўскага працэсу ў той самы час, як былі галоўнымі кіраўнікамі Грамады, вялі самую шырокую акцыю па скамунізаваньню нашага народу і былі ў вельмі добрых адносінах з нашым усходнім суседам, — прынамсі давалі аб ім найлепшую „атэстацыю"...

Калі-ж казаць пра запраўдны полёнафільскі кірунак беларускае палітычнае думкі, такі кірунак, які-б маючы пэўныя ідэолёгічныя падставы імкнуўся-б да палепшаньня лёсу беларускага народу шляхам супрацоўніцтва з адпаведнаю часткаю польскага грамадзянства, дык на жаль, дзякуючы розным акалічнасьцям, да гэтага часу ён яшчэ не вытварыўся і ня прыняў рэальных формаў.

Трэба ведаць, што гэты кірунак зьяўляецца найбольш небясьпечным для ўсялякіх разбурваючых сілаў і дзеля гэтага няма нічога дзіўнага, што ўсякага роду скрытыя і яўныя агенты комінтэрну вялі з ім сыстэматычную барацьбу, не шкадуючы грашавых сродкаў, кампрамітуючы паасобных дзеячоў, баламуцячы польскае грамадзянства і г. д.

Гэтым-жа самым займаўся і нязьменяемы наш патрыярх Ант. Луцкевіч, якого запраўдныя імкненьні вельмі ярка выявіліся ў грамадаўскіх газэтах, якія ім рэдагаваліся (Наша Справа і інш.) і ў той кніжцы, якую ён надрукаваў падчас бальшавіцкай акупацыі („Польская окупацыя ў Беларусі").

Ніхто іншы, як п. Луцкевіч са сваёю кумпаніяю стаяў заўсёды на перашкодзе да ўзмацаваньня запраўднага беларускага лагеру, які-б паслугоўваўся рэальнымі мэтодамі і які-б прычыніўся да беларуска-польскага паразумленьня.

Толькі дзякуючы гэтай кумпаніі, здаровая па сутнасьці думка полёнафільства ў лёпшым значэньні гэтаго слова, ператварылася ў нейкае пугала для нашага грамадзянства, якім яго страшаць і цяпер. Толькі Луцкевіч займаўся ўпарта і пастаянна траўляю ўсіх тых „афэрыстаў" і неафэрыстаў, якія імкнуліся і цяпер імкнуцца паставіць беларускую справу на цьвёрды грунт.

Добра пазналіся мы на Луцкевічаўскай кампаніі і сьмела залічаем яго, (якбы гэтага ён ня выракаўся) да полёнафілаў, але полёнафілаў адумысловай вельмі дрэннай, круцельскай маркі. Гэтакага тыпу людзі робяцца рознымі „філамі" у залежнасьці ад таго карыта, у якім яны жыруюць..

Жыруючы ў адным—шукаюць адначасна іншага, больш пажыўнага і тлустага..

Гэтакім людзям, маючым зусім прымітыўныя інстыкты, страціўшым ўсякае пачуцьцё элемэнтарнай маралі—зусім ня мейсца ў нашым грамадзкім жыцьці.

І калі яны яшчэ неяк трымаюцца на яго паверхні—дык толькі дзякуючы неарганізованнасьці нашага грамадзянства, а з другога боку, дзякуючы падтрыманьню пэўнай часткі польскага грамадзянства, якое або не пазналася на гэтых афэрыстах, або сьведама робіць шкоду беларускай справе ня маючы намеру ў рэчовы спосаб прыступіць да вырашэньня элемэнтарных беларускіх пытаньняў, уваходзючы ў паразумленьне з сумленнаю часткаю беларускага грамадзянства.

У пэўных выпадках з круцялямі куды прыямней мець дачыненьне, бо яны больш „пакладзістыя" і за грошы гатовы на ўсялякія ўслугі...

*А. Асмольскі.*

## Чым А. Луцкевіч хацеў прыслужыцца бальшавікам

У той час, як камуністычная навала падкочвалася пад самыя вароты Варшавы, у той час—калі здавалася, што Маскоўская чырвоная армія злучыцца з нямецкімі камуністамі і праз гэта ўмажлівіцца перамога камуністаў ва ўсёй Эўропе—тады сярод усяго шкурніцкага балота, сярод усякага сорту грамадзкай „сьлякаці" запанавала няпэўнасьць і шалёны перапалох.

Усё гэтае сьмяцьцё, якое здольна выказваць „героізм" толькі тады, калі ёсьць пэўнасьць, што гэтаму героізму нічога не заграждае—пачало перафарбоўвацца і падшывацца пад новыя варункі жыцьця.

Толькі лічаныя адзінкі ня страцілі тады галавы і сьмела, да пабеднага канца вялі барацьбу з бальшавікамі.

І ў гэтым іх вялікая заслуга перад гісторыяю. Асабліва яскравую форму гэтага дастасаваньня да акалічнасьцяў і перахварбоўкі далося заўважыць на вядомым усяму беларускаму грамадзянству палітычным паравертню Антону Луцкевічу. Як толькі ў паветры засьмярдзела дрэнным, як толькі ён пабачыў перамогу чырвонай арміі — адразу „з'ар'ентаваўся" і адразу знайшоў выхад з даволі дрэннай сытуацыі, у якой ён мог апынуцца.

У ліпні 1920 г. друкуе ў Вільні брашуру „Польская акупацыя на Беларусі", у якой з усіх сілаў стараецца прыпадабацца сваім будучым панам.

Гэтая тэндэнцыйная па зьместу брашура зьяўляецца найлепшым палітычным пашпартам для сучаснага полёнафіла Луцкевіча. Варта было-б каб наша грамадзянства ўявіла сабе, якія думкі правадзіў у ёй той самы чалавек, які потым, калі праканаўся што стаўка на бальшавікоў біта—рэзка перамяніў фронт і захапіў спадак Валэйшы, Паўлюкевіча і іншых, зашыўшыся ў полёнафільскі лагер.

У гэтай брашуры ён дае тэндэнцыйнае высьвятленьне фактаў даводзячы, што „польская буржуазія" па загаду Яз. Пілсудскага руйнавала беларускія арганізацыі, школы і г. д. Луцкевіч абвінавачвае Пілсудскага які ваяваў з бальшавікамі ў тым, што гэты апошні вёў „вайну з дзяржаўным ідэалам народаў, якія быццам прыйшоў вызваляць!" (стар 3)

Нашаму „незалежніку" і завадоваму патрыярху вельмі не падабалася тая акалічнасьць, што гэн. Довбар Мусьніцкі ачышчаў Меншчыну ад бальшавіцкіх бандаў і яму было вельмі прыемна, калі на зьмену Довбор Мусьніцкага прыйшлі немцы.

„Няма ведама, да чаго давяла-б далейшая гаспадарка банд Довбора на Беларукай зямлі, каб нямецкія окупацыйныя ўпасьці... не абязброілі-бы і не вывязьлі з краю „даўборчыкаў."

Далей п. Луцкевіч у сваёй брашурцы скаржыцца, што „ад першага дня прыходу польскіх войск на Беларускую зямлю окупанты заводзяць нябывалы, нікім дагэтуль тут не практыкаваны белы тэрор" (стар. 6.

З лёгкай рукі п. Луцкевіча у бальшавіцкіх колах увялася мода называць Польшчу дзяржавай „белага тэрору."

Але як і заўсёды сьлёзы п. Луцкевіча зьяўляюцца кракадьлёвымі...

Ён сьведама замоўчвае пра тую абстаноўку, якая была ў 20 г. пра той усеагульны бандытызм і разбой, які пачаўся на нашай зямлі, які, пэўнаж, аднымі салодкімі словамі ўціхамірыць бадай ці ўдалося-б.

Патрэбна было налажыць жалезную лапу на ўвесь гэты з'анархізаваны і бандыцкі элемэнт, які хацеў зруйнаваць элемэнтарныя падставы жыцьця. Разводзючы свае лібэральна—сьлюнявыя „тэорыі" пра белы тэрор, п. Луцкевіч сьведама маўчыць пра ч ы р в о н ы, які зьнішчыў усё лепшае, што было на нашай зямлі.

Калі дапусьціць, што быў белы тэрор, дык трэба прызнаць што ён быў скіраваны галоўным чынам проці бандытызму і вось гэтая важная акалічнасьць чамусьці апускаецца п. Луцкевічам.

У далейшых сваіх разважаньнях сучасны полёнафіл Луцкевіч захопліваецца тымі паўстаньнямі, якія рабіліся камуністамі на нашых вёсках і захопліваецца тым, што паўстанцы выразалі ў некаторых мяисцох польскіх урадоўцаў і нават жандармэрыю!

„Народ ужо бачыць", кажа п. Луцкевіч у зьвязку з гэтымі фактамі: „што польскае панаваньне—гэта паварот шляхоцкае ўлады, паварот паншчыны"... У нашу задачу не ўваходзіць даць падрабязны агляд усяго таго, што напісаў Луцкевіч у сваёй брашуры.

Нам здаецца, што і з таго, што мы прывялі вышэй—даволі ясна відаць якімі мэтамі кіраваўся п. Луцкевіч, калі пісаў сваю брашуру. У канцы можна сказаць толькі, што такія „палітыкі," якія сваімі выступленьнямі, носючымі яўна разбурваючы, анарха — бальшавіцкі характар, шмат прычыніўся да пагоршаньня палажэньня беларускага народу ў Польшчы.

Яны сьведама ўносілі анархію ў галавы нашага грамадзянства, сьведама раздмухвалі ўсе факты, якія ішлі на карысьць толькі камуністам, сьведама кампрамітавалі тую дзяржаву, якая ёсьць запраўдным анты—камуністычным авангардам — і рабілі ўсё гэта не ў імя незалежніцкай альбо нейкай іншай ідэі— а рабілі толькі па заказу тых, якім залежыла на анархіі і развале.

Вось дзеля чаго п. Луцкевіч так стараецца ў сваёй брашуры абурыць усё грамадзянства проці ўсіх сілаў, стаўшых на перашкодзе да пературэньня нашых земляў у Савецкую Беларусь з яе камуністычнаю дыктатураю.

М. Зарэцкі

## Što R. Astrouski kaža sam ab sabie

(Pawodle jaho ŭłasnych słoŭ na pracesie Hramady. Sudowyja akty apošniaj tom 6 c bałonka 12).

...„Ja, jak dyrektar Biełaruskaha Kooperatyŭnaha Banku całaj swajej hatoŭki ŭ heny bank nia kłaŭ, bo bajaŭsia, što jana moža zahinuć, dziela taho, što bank nia mieŭ kasy i časta zdarałasia, što ja sam, abo Koŭš zanasili hatoŭku da swajej chaty. (Čamu-ž tady pan dyrektar nie bajaŭsia brać i kłaść u hety samy bank hrošy druhich?.. Ciapier chaj wiedaje kožny klijent banku na što narażaŭ swaje hrošy, addajučy ich pad apieku jaho dyrektaru. Pryp. Red)...

...Kali zachodziła patreba ŭnasiŭ ja peŭnyja sumy na swoj biahučy rachunak i pabiraŭ z hetaha rachunka, dziela wypłaty roznym asobam, pierawažna na materjał budaŭlany. (Ci časam nie za budowu swajej willi? Pryp. Red.)

Mušu, adnak, adciemić, što nia ŭsie pazycyi, prawiedzienyja praz moj biahučy rachunek, abo praz rachunak majej žonki i Kaŭša, datyčyli našych hrošaŭ. (Cikaŭnaja reč! Pryp. Red). Časta zdarałasia što bank, nia majučy prawa kuplać i pradawać ćužoj waluty, pierawažna dalaraŭ, adnak rabiŭ čekawyja aperacji. Pa atrymańni dalarowaha čeku ad Ryhskaha banku, nia majučy prawa pradać dalary, abo dyskantawać ček—rabiłasia pradaža, ukrywajučy całuju aperacyju i robiačy odnosnyja zapisy na maim biahučym rachunku abo na rachunku majej žonki, ci Kaŭša. (Dobraja šachrajskaja kampanija! Ščaścia što tady-ž nie zacikawilisia hetym adpawiednyja ŭłady. Pryp. Red.)

Jakuju mianoŭna sumu hrošaŭ ja mieŭ na biahučym rachunku ciapier na pomniu.

Aprača hetaha zdarałasia časta, što ja, budučy dyrektaram banku, unasiŭ na swoj biahučy rachunak hrošy, jakija byli ŭłasnaściu biełaruskaj himnazii i kali była patreba ich zabiraŭ. (Panie dyrektar, treba-ž adroźniwać swaju ułasnaść ad čužoj. Pryp. Red.)

Datyčna zapisanaj u knizie banku, zacianutej praz mianie pazyki ŭ sumie 45 dalaraŭ, dyk tłumaču, što adnaho razu ŭrad banku praz niaŭwahu nie zapratestawaŭ u patrebnym časie waksaloŭ niekalkich sialan. Dziela taho, što heta stałasia z winy ŭradu, ja wystawiŭ weksali na pokryćcio niechapajučaj sumy, zabraŭ weksal, jakoha prajšoŭ užo termin i naležnyja banku hrošy ściahiwaŭ ad daŭžnikoŭ, jak prywatnaja asoba! (Štoś nia wyrazna! Pryp. Red.)

Akazałasia, sto strachi kab nie prapali hrošy dyrektara banku Astroŭskaha byli biespadstaŭny, bo dalary jaho nie prapali dokazam hetaha jość pabudawanaja za ich willa.

A woś jašče charakterna, jak pan Astroŭski wypiraŭsia Hramady i supracoŭnictwa ŭ jaje presie. (Pratakoł z 19 studnia 1927 hadu).

...„Wučyciel; maje 1500 dalaraŭ; słužyŭ u achwotnickaj armii Denikina... (Charakterna dla Astroŭskaha jak jon kruta i chutka mianiaŭ swaju ideolohiju: z čornasocianca—Denikinca—raptam zrabiŭsia biełaruskim kamunizujučym hramadaŭcam. a paśla polonafiłam Pryp. Red.)

...„Ja ani faktyčna, ani ideolohična da biełaruskaj sialanska-rabotnickaj hramady nie naležu i nikoli nie naležaŭ, a tolki ŭ listapadzie 1926 hodu, kali mnie kamisar uradu ŭ Wilni pan Wimbor adnowiŭ dazwołu na wyjazd u Miensk na akademičnuju kanferencyju ŭ sprawie biełaruskaj prawapisi, uważajučy mianie za hramadaŭca-tady ja zapisaŭsia ŭ hramadu wyklučna pad upływam padraźnieńnia z pryčyny hetaj admowy...

Siabroŭsni bilet ja atrymaŭ za nom 50000. Tady ŭžo było siabroŭ bolš čymsia 50000, dyk hety numar upisana tak sabie, dziela demonstracyi...(Što za naiŭnaje dziacinnaje i niekonsekwentnaje tłumačeńnie: nikoli nie naležać-i naležaŭ tak sabie z kaprysu. Pryp. Red.)

„Nikoli ja nie pracawaŭ u presawych worhanach Hramady; časami tolki byli maje listy, majučyja peŭnyja sprastawańni...

Aprača hetaha pamiaščalisia ŭ biełaruskich worhanach reporterskija wywiady... (Tut dyk napeŭna maniš, panie dyrektar. Pryp. Red.)

Jak widać, dyk Astroŭski na pracet sie zusim wyraksia Hramady i byŭ nawieopraŭdany sudom. Ciapier užo jon trochi paśmialeŭ, bo maje adwahu na špaltach Bieł. Zwonu pryznawacca da „prawaha kryła" Hramady, jakoha jon tady i wašnie nie chacieŭ bačyć, bo za ŭsialakuju canu razam z Łuckiewičam imknuŭsia da pahłybleńnia kamunizujučych nastrojaŭ siarod hramadaŭskaj masy... Z hetaj małoj častki pakazańniaŭ samoha R. Astroŭskaha jasna wynikaje nastupnae: 1) Jon jość zdolnym da kožnych šachrajstwaŭ, jak heta rabiŭ, budučy dyrektaram Bieł. Koop. Banku, jak sam pryznaŭsia ŭ pratakole; 2) Jon nie adroźniwaje hramadzkaj ułasnaści ad swajej, bo kaža naprykład, što himnazijalnyja hrošy kłaŭ u bank na swoj rachunak. 3) Jon nia dbae a hramadzkaje dabro a tolki a swaju ŭłasnaju kišeniu, bo, naprykład, swaich usich hrošaŭ bajaŭsia kłaść u Bieł. Koop. Bank, a hrošy biednych biełaruskich sialan nie bajaŭsia narażać na heta. 4) Jon, kali jaho chto-niebudź i čym-niebudź uhniewić moża sa złosnaha dziacinnaha kapryzu zapisacca ŭ jakuju papała partyju, chacia-by jana była zusim praciŭn a jahonym pierakonańniam, jak było heta byccam z Hramadoj kali, jak kaža jon zapisaŭsia tudy sa złości na kamisara ŭradu ŭ Wilni pana Wimbora.

I zapraŭdy-ž dziŭny heta biełaruski dziejač! Prosta jak naradziŭsia tolki kab i

być dabranym kampanom p. Łuckiewiču.

I z takim čałaviekam, padobna, siabrujuć niekatoryja koły polskaha hramadzianstwa, jakija jość pad upływam masonskich sferaŭ, u jakich, jak kažuć maje wialikuju apieku ideowy prawadyr Astroŭ·kaha, wiedamy „mąż sztandarowy „patryarcha“ A. Łuckiewič.

Polskamu hramadzianstwu hetkich kampanoŭ my nie zajzdrościm.

**Zmitro Bakun.**

# Як беларускі „патрыарх“ А. Луцкевіч выракаўся ўсяго і—нават беларускага народу

Падчас працэсу Грамады выявілася, што некаторыя людзі, якія фактычна кіравалі Грамадою, выракліся ня толькі гэтай арганізацыі, але нават і беларускага народу.

Асабліва яскрава гэтая здрада выявілася ў нашага „агульнашанаванага павадыра п. Луцкевіча, які ў гэтай справе паказаў між іншым наступнае:

„Называюся Антоні Луцкевіч 45 г., радзіўся ў Шаўлях Ковенскай зямлі“. На пытаньне сьледаваццеля Падоскага да якой нацыі сябе залічае—даў адказ. „беларус-паляк“(!!)

Далей гэты „беларус-паляк“ паказаў: „бязвызнанёвец, аконччыў аддзел прыроды Пецярбурскага Унівэрсытэту (тут, здаецца, салгаў, бо Унівэрсытэту не аконччыў. Рэд.).

...Маю ў Менску дамы, знацыяналізаваныя цяпер бальшавікамі...

З пераканаваньняў зьяўляюся марксістам... Сябрам Бел. Сял.-Раб. Грамады ня быў і ніколі ў працах Цэнтр. Камітэту гэтай партыі ўдзелу ня браў...

„У адзінакавай ступені зьяўляюся чужым як ідэолёгіі II, так і III Інтэрнацыяналу...

„Больш чынны ўдзел у прэсавай працы бяру ад 1921 г.

Ад гэтага часу зьяўляюся пастаянным супрацоўнікам газэт, якіх назоў меняўся...

У гэтых газэтах я вёў аддзел краёвай хронікі і літэратурны..

(А хто пісаў у кожным нумары хвалебныя гімны ўсяму таму, што тварылася ў Саветах? Рэд.).

Часам пісаў і ўступныя артыкулы ў гэтых газэтах.

**Фактычным рэдактарам гэтых газэт я ня быў.**

Ад 1923 г., да часу аж па выбарах у Сойм, фактычным рэдактарам тых газэтаў быў Лагіновіч... (камуніст, які ўцёк у Саветы. Рэд.

Пасьля Лагіновіча фактычным рэдактарам быў Шыла, а за ім Войцік...

**Станоўча цьвярджу, што адказныя рэдактары былі заўсёды і фактычнымі рэдактарамі гэтых газэт.**

За сваю працу ў вышэй пададзеных газэтах браў плату, ад радка.

За хроніку мне плаціла каля 10 грошаў, а за артыкулы ад 10 да 15 гр. за верш... Станоўча цьвярджу, што ніколі мне і ў галаву ня прыйшло, што прэса, у якой супрацоўнічаў, магла атрымоўваць субсыдыі ад камуністычнае партыі“.

(Паказаньне Луцкевіча, запісанае суд. сьлед. Падоскім 12 кастрычніка 1927 г. знаходзіцца ў актах справы Грамады т. IV—F стар. 186).

У такі спосаб ратаваў сваю скуру „патрыарх“ і „павадыр!“

Выракаўся ўсяго, нават таго народу, на „правадырства“ якім ён пратэндуе і цяпер, калі ўсе яго махлярствы выплылі наверх.

Трэба заўважыць, што такія паказаньні, як здрадніка Луцкевіча, — шмат прычыніліся да пагоршаньня лёсу ўсіх абвінавачаных грамадаўцаў.

Калі такія людзі як Луцкевіч выпіраліся ўсяго і нават даводзілі што яны не зьяўляюцца запраўднымі беларусамі,—то немагчымым было спадзявацца каб быў вынесены лагаднейшы прысуд...

Нам здаецца, што непатрэбна больш ніякіх комэнтарыяў да гэтага тыпова—здрадніцкага паказаньня...

# Што паны Астроўскі і А. Луцкевіч вырабляюць з беларускім студэнтствам

Усім хіба ведама, што ў студэнтскай моладзі нашая будучыня, а дзеля гэтага і кожны мусіць знаць, што грамадзкая якасьць гэтае моладзі залежыць ад добрага прыгатаваньня да грамадзкае працы, а гэта робіцца шляхам здабыцьця веды і шляхам самавыхаваньня. У кансалідацыі студэнтства—яго сіла і яго грамадзкая роля. Усё гэта разумееіць большасьць нашага студэнтства і гэта большасьць сьведама імкнецца, ужо праз некулькі гадоў, да кансалідацыі на грунце Беларускага Студэнтскага Саюзу. Гэтыя добрыя імкненьні студэнтства не падабаюцца моцна паном „золотоіскателям“ Луцкевічу і Астроўскаму.

Чаму-ж гэта—спытаюцца людзі—„патрыарху“ беларускага руху і яго вернаму „pachołkowi“ не падабаецца імкненьне студэнтства да кансалідацыі? А надта проста: гэтая „пара“ за шмат грахоў мае на сваім сумленьні, за шмат розных палітычных круцельстваў яна робіць. Калі-б нашае студэнтства стала на свой самадзельны, скансалідаваны грунт, дык напэўна „патрыарху“ зрабілася-б ад гэтага горача. Студэнства, як найбольш чулы грамадзкі барометр напэўна-б заарэгавала на ўсе гістарычныя і сучасныя выбрыкі „патрыархі“. Вось гэтага і баяцца паны „золотоіскателі“ і ўсімі сіламі стараюцца перашкодзіць студэнтству ў яго сьветлых імкненьнях. Карыстаюцца яны ў гэтай сваей рабоце выпрабаванымі ўжо праз сябе мэтодамі дэморалізацыі і разьбіцьця адзінага фронту студэнтства. Яны робяць свае „ячэйкі“ ў лоне якое небудзь праз іх ахвярованай на загубу арганізацыі і гэтым клінам яе расчэпліваюць. У даным выпадку гэты клін яны ўвагналі цяпер ў Беларускі Студэнскі Саюз, а называецца ён корпарацыя „Скорынія“. Ведаюць-жа добра гэтыя мастакі, што слабая старана студэнтства, — гэта яго беднасьць, яго матэр'яльная нястача, — вось яны і б'юць студэнства ў гэтую „ахілаву пятку“, каб яго разьбіць на варожыя лагеры і каб на гэтым зарабіць трохі грошай.

Калі ў леташнім годзе гэтым паном не ўдалося, пры помачы сваіх некулькіх прыхільнікаў нанятых за ломаныя грошы, апанаваць Беларускі Студэнтскі Саюз, і калі гэтыя „прыхільнікі“ на агульным сходзе Саюзу пацярпелі крушэньне, —дык яны цяпер падыйшлі з другога боку—стварылі з гэтых „прыхільнікаў“ корпарацыю „Скорынію“, пастараліся спыніць Беларускаму Студэнтскаму Саюзу дапамогу і перадаць яе „Скорыніі“, а цяпер едуць на гэтым коніку і хваляцца „przełożonym“:—„з намі ідзець самая квітэсэнцыя студэнтства—(„даёш манету!“) А таго ня кажуць гэтыя „спэцы“ што ў гэтай „Скорыніі“ апынулася тая частка студэнтства, якая за сваю колішнюю працу ў Студэнтскім Саюзе на агульным сходзе атрымала нагану. Маўчаць гэтыя паны і аб тым, што ў гэтай карпарацыі ўсяго апынулася 9 чалавек студэнтаў, у той час калі ў Беларускім Студэнтскім Саюзе ўсіх сяброў балей за сотню. І вось прыпомачы гэтых 9-ці чалавек, якія маючы запамогі, натта добра жывуць паны Луцкевіч і Астроўскі муцяць воду ў Беларускім Студэнтскім Саюзе, незважаючы нават на тое, які можа быць з гэтага вынік. Яны сьведама перашкаджаюць беларускаму студэнтству ў яго сьветлай спакойнай і карыснай для народу працы... У той час калі ў гэтай карыснай дзеля будучыні працы студэнтства, каля ста сяброў Студэнтскага Саюзу цярпіць бяду, голад і холад, дык корпарацыя мае ўсяго пад дастаткам: можа сабе „urządzać co sobotę piwko“ можа сабе купляць шпады па 25 зал., спраўляць штандары на 150 зал., наймаць кватэру за 100 зал. ў месяц і ўсё гэта робіцца коштам ўсяго беларускага студэнтства. Магчыма, што „узгляды вышэйшай палітыкі“ кажуць даваць грошы на „piwko“ корпарацыі і гэтым самым памагаць паном Луцкевічу і Астроўскаму дэмаралізаваць нашую моладзь, але з другога боку шмат прамаўляе і за тым, што варта-б было заапякавацца ўсім беларускім студэнтствам і гэтым даць яму магчымасьць спакойна здабываць веду, Бо калі апякавацца толькі 9 студэнтамі ў корпарацыі,—дык другая частка студэнтства, ў 10 разоў большая ад корпарацыі, прыпёртая бядою да муру, можа папасьці пад апеку зусім непажаданую, а ад гэтага хіба ня будзе вялікае карысьці. Усяму здароваму беларускаму грамадзянству трэба рашуча заарэгаваць на падобныя „праделкі“ Астроўскага і Луцкевіча. Даволі ім гандляваць душою беларускае моладзі, даволі ім гадаваць для беларускага народу духовых дэгенэратаў і ашукваць польскае грамадзянства, якое, на жаль, слаба арыентуецца ў нашых справах, бо не пазналася нават на такіх „заводовых“ круцялёх.

*Альховік*

